Гродна
№1 (459),
1 студзеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Ксёндз у дом, Бог у дом

**Пасля свят Божага Нараджэння распачынаецца час пастырскіх візітаў, або так званая каляда. Святар наведвае парафіян, каб блаславіць вернікаў і іх сем'і, асвяціць дамы. Наколькі важныя душпастырскія адведзіны? Як зрабіць так, каб дадзеная падзея прайшла належным чынам і прынесла багаты духоўны плён? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. Віталій Дабраловіч.**

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*1 студзеня*
*Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.*
*Сусветны дзень малітвы аб супакоі ў свеце.*

*6 студзеня*
*Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў).*
*У святынях асвячаецца крэйда, ладан і вада.*

*8 студзеня*
*Свята Хросту Пана.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Студзень*

*Аб святле Святога Духа для ўдзельнікаў, аніматараў і кіраўнікоў рэлігійных таварыстваў і рухаў.*

*Аб дары плённай падрыхтоўкі да Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 7 лютага 19.45, паўтор – 8 лютага ў 9.00.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Святары павінны быць пасрэднікамі Божай любові". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**УРАЧЫСТАСЦЬ СВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ МАРЫІ**

**Лк 2, 16–21**

І пайшлі яны, спяшаючыся, і знайшлі Марыю і Юзафа, і Немаўля, якое ляжала ў яслях. А калі ўбачылі, расказалі тое, што было абвешчана ім пра гэтае Дзіця. Усе, хто чуў, дзівіліся таму, што расказвалі ім пастухі. А Марыя захоўвала ўсе гэтыя словы, разважаючы ў сэрцы сваім. І вярнуліся пастухі, праслаўляючы і хвалячы Бога за ўсё, што пачулі і ўбачылі, як было сказана ім. Калі мінула восем дзён, каб абрэзаць Дзіця, далі Яму імя Езус, якое было названа анёлам перад Яго зачаццем ва ўлонні.

### ДАЛІ ЯМУ ІМЯ ЕЗУС

Хіба што, няма людзей, якія б ніколі не планавалі будучыню. Мабыць, усе, кладучыся ў ложак, хоць аднойчы складалі ў галаве своеасаблівую праграму на заўтрашні дзень. Ведаючы свае абавязкі, чалавек бярэцца за пэўныя заданні і стварае гісторыю сям'і, малітоўнай групы, парафіі... Можна нават было б сказаць, што без планавання будучыні – наступнага дня, тыдня ці месяца – мы не здольны нармальна функцыянаваць у сямейнай, грамадскай і прафесійнай дзейнасці.

Найсвяцейшая Маці, напэўна, таксама мела планы. Але ў Яе жыццё ўвайшоў Бог. І з гэтага часу ўсё стала па-іншаму. Пан захацеў, каб кожны быў ахінуты мацярынскай апекай Марыі. Таму з самага пачатку выбраў Яе за Маці для свайго Сына. Ужо ў раі прадказаў першым бацькам, гаворачы д'яблу: "Устанаўлю варожасць паміж табою і паміж жанчынаю".

Прагнем зірнуць у вочы Маці Божай і ўпасці перад Ёй на калені. Бо, як пісаў св. Аўгустын, "той хто любіць прагне ўбачыць твар любімага чалавека". Марыя не спыняючыся ўказвае зямным пілігрымам слушны шлях і вядзе ўсіх да Езуса. Будзем жа ўпэўнены, што праз Яе заступніцтва атрымаем ласку навяртання і ачышчэння, напаўняючыся Божай любоўю.

**СВЯТА ХРОСТУ ПАНА**

**Мц 3, 13–17**

Езус прыйшоў з Галілеі на Ярдан да Яна, каб атрымаць ад яго хрост. Ян жа ўстрымліваў Яго, кажучы: "Гэта мне трэба ад Цябе прымаць хрост, а Ты прыходзіш да мяне?". Сказаў яму Езус у адказ: "Дазволь цяпер, бо так належыць нам выканаць усё, што справядліва". Тады Ян уступіў Яму. Калі Езус ахрысціўся, адразу выйшаў з вады, і раскрыліся Яму нябёсы, і ўбачыў Духа Божага, які спускаўся, як голуб, і сыходзіў на Яго. І голас з неба прамовіў: "Гэта Сын Мой умілаваны, якога Я ўпадабаў".

### ПАСВЕДЧАННЕ БОЖАГА ДЗІЦЯЦІ

Свята Хросту Пана павінна кожнаму прыгадаць прыняцце першага сакраманту і абавязкі, што вынікаюць з яго. Праз гэтую падзею Айцец абвяшчае нас сваімі дзецьмі, братамі і сёстрамі Хрыста, святынямі Святога Духа. Вызваляе з першароднага граху, што абцяжарваў душу. Чалавек атрымлівае своеасаблівае пасведчанне Божага дзіцяці і "пашпарт" на дарогу ў нябесную Айчыну. Але сакрамант хросту з'яўляецца толькі пачаткам – духоўным нараджэннем. На ім павінна засноўвацца ўсё наша жыццё, згоднае з Евангеллем. Варта паглыбляць сувязі з Богам праз малітву, узрастаючы ў веры, надзеі і любові.

Нельга згубіць сваё хрысціянскае пасведчанне, годнасць Божага дзіцяці. Іх нельга "схаваць у шуфляду" ці "закрыць на ключ". Трэба нястомна паказваць свету Хрыста ў сваім штодзённым жыцці, чэрпаючы сілы і радасць з таямніцы святога хросту.

*Кс. Юрый Марціновіч*



## З радасцю развітацца са старым і прывітаць новае

**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

*Скончыўся чарговы год нашага жыцця, у якім, бясспрэчна, многае адбылося. За гэты час мы паспелі здзейсніць тысячы вялікіх і малых выбараў, з кожнай хвілінай набліжаючыся да свайго Стварыцеля.*

Валадар Сусвету шчодра ўдзяляе чалавецтву ласкі, каб людзі ўпэўнена крочылі наперад. Той, хто з'яўляецца Пачаткам і нанова нам дае пачатак, запрашае паразважаць як пра ранейшы плён кожнага слова і ўчынку, так і пра будучы. Аб гэтым варта паклапаціцца ўжо сёння, выхоўваючы ў сабе дары, што спрыяюць паспяховай працы.

Перыяд чакання надыходу Новага года, як правіла, багаты на сустрэчы з рознымі людзьмі. Гучыць музыка, грукочуць феерверкі. Усе з радасцю развітваюцца са старым і вітаюць новае. Такі звычай спадарожнічае чалавецтву здавён-даўна. Пераходныя моманты заўсёды атаясамліваліся ў людзей з нязвыклым часам, які трэба правесці не так, як звычайна.

Па Божай волі ўваходзім у Новы 2017 Панскі год. Кожны спадзяецца на добрыя змены і, канешне, на вяртанне жаданага супакою ў свеце, які ў апошні час быў парушаны тэрарыстычнымі актамі. Поўныя надзеі і веры, становімся з пустым начыннем, як тыя, што адпраўляюцца на пошукі скарбаў. Падчас гэтага падарожжа мы павінны напоўніць свае пасудзіны, і нават больш – мусім самі стаць імі, каб быць у руках Пана карыснымі інструментамі, праз якія праліваецца Яго ласка.

Кожны новы дзень, які дорыць нам Бог, – гэта выдатны шанс здзейсніць дабро, дбаючы аб сваёй душэўнай глебе. На ёй мусяць расцвісці цудоўныя кветкі – як прадвеснікі плёну, сабранага тут і ў вечнасці. Таму зараз стаім перад шырокімі палямі, якія дзякуючы нашым намаганням і супрацоўніцтву са Святым Духам павінны стаць шумнымі жытнімі палеткамі. Кожнае зярнятка існуе для таго, каб прынесці добры ўраджай, што надзвычайным чынам памнажаецца ад Божага позірку.

**Дарагія Чытачы!**

Жадаю кожнаму з Вас верна ісці за Панам, быць здольным на прабачэнне і цярпенне. Давайце навучымся славіць Бога, дзякаваць Яму за тое, што нам дае, а найперш за магчымасць нястомнага святкавання новых часоў. Абудзім у сэрцах патрэбу братэрскай зычлівасці. Паціснем руку і перададзім адзін аднаму пацалунак супакою. Няхай любоў аб'яўляецца не толькі ў словах, але і праз учынкі. І гэты навагодні старт стане прыгожай адпраўной кропкай чарговага прыпынку ў шчырай любові да бліжняга.

## Галоўныя падзеі 2016 года

**Пераступіўшы парог новага года, прапануем успомніць найважнейшыя здарэнні з гісторыі Гродзенскай дыяцэзіі.**

На працягу ўсяго мінулага года духавенства і вернікі нястомна дзякавалі Богу за **25-годдзе існавання Касцёла на Гродзеншчыне** і паслугу яе ардынарыя ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча. Лічба адносна невялікая, але, у той жа час, за плячыма чвэрць стагоддзя. Да слова, структуры мясцовага Касцёла павінны былі быць створаны яшчэ ў 1930-х гг. Рыхтаваліся адпаведныя дакументы, вырашалася пытанне аб выдзяленні сродкаў на ўтрыманне, меўся кандыдат на біскупа... Але выбухнула Другая сусветная вайна. Праект аб заснаванні дыяцэзіі быў рэалізаваны Янам Паўлам ІІ толькі ў 1991 годзе.

Да юбілею заснавання дыяцэзіі ў маі мінулага года ў Гродне быў прымеркаваны **Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс.** На ім прысутнічала духавенства з усёй Беларусі на чале са спецыяльным госцем з Ватыкана, пасланнікам Папы Рымскага кардыналам Зянонам Грахалеўскім.




*Падчас Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу ў Гродне*

Добрай навіной стала паведамленне аб арганізацыі **музея Гродзенскай дыяцэзіі** ў сценах лямуса пабрыгіцкага кляштара, у якім ужо некалькі месяцаў працягваюцца рэстаўрацыйныя працы. Пасля аднаўлення на экспазіцыі плануецца выставіць унікальныя кнігі, алтарныя абразы, гістарычныя фотаздымкі, дакументы. Адкрыццё музея стане дэманстрацыйным плёнам дзейнасці Касцёла на Гродзеншчыне.

Гістарычнай падзеяй для дыяцэзіі ў мінулым годзе стала ўрачыстая інсталяцыя **Гродзенскага катэдральнага капітула** Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра Каралевіча. Калегія духавенства была заснавана са згоды Апостальскай Сталіцы яшчэ ў 2012 годзе. У склад дарадчага органа пры біскупе ўвайшлі грэміяльныя і ганаровыя канонікі. З гэтага часу члены капітула разам адпраўляюць набажэнствы падчас урачыстасцей у катэдральнай базіліцы, клапоцяцца пра літургічнае і душпастырскае жыццё вернікаў на чале з дыяцэзіяльным біскупам. Структуры мясцовага Касцёла ўзняліся на новы, вышэйшы ўзровень.

2016 год стаў працягам юбілейнага года для **Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.** За 25-годдзе свайго існавання Alma Mater выпусціла ў свет больш за 150 святароў. На дадзены момант у семінарыі 29 навучэнцаў, сярод якіх 4 залічаны на першы курс у мінулым годзе. Юбілеі адсвяткавалі і некаторыя душпастырствы – студэнтаў і працуючай моладзі "OPEN" (10 гадоў), настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў (15 гадоў).

Безумоўна, 2016 год быў асаблівым і для вернікаў. Магчыма, некаторыя таксама адзначылі ўласныя круглыя гадавіны. Варта падзякаваць Богу за дар жыцця. Схіліць пакорна галаву з упэўненасцю ў тым, што Усемагутны прыгатаваў для кожнага добрую дарогу. Трэба толькі яе трымацца і ні пры якіх абставінах не збочваць з праўдзівага шляху.

*Ангеліна Пакачайла*




## Малітва на Новы год

**Усемагутны Божа, просім аб бласлаўленні на Новы 2017 год. Не ведаем, што нас у ім чакае, якія радасці і цярпенні перажывём. Але ўпэўнены, што тым, хто Цябе любіць, усё выходзіць на карысць. Ойча міласэрны, Ты мілуеш сваіх дзяцей, ведаеш пачатак, трыванне і канец людскога жыцця, вядзеш усіх праз час у вечнасць. Дазволь быць побач, верна ісці па дарозе запаведзей, каб у моцы спакойна і верна рабіць тое, што Табе падабаецца і нам належыць, з пакорай пераносіць тое, што спасылаеш. Прагнем распачаць гэты год у любові. Хочам застацца Табе вернымі. Не дазволь, каб штосьці адлучыла нас ад Тваёй міласці. Кіруй намі паводле сваёй святой волі. У Табе і ў ёй знойдзем супакой, бо Божы Провід і ёсць наш вечны супакой у Табе.** *Амэн*

# Ксёндз у дом, Бог у дом

працяг са с. 1



*Каляда дапамагае святару рэалізаваць заданне пастыра, які клапоціцца пра сваіх авечак і дапамагае ім*

### Навошта патрэбна пастырскае наведванне?

Каляда – гэта, перш за ўсё, сустрэча святара са сваёй паствай, добрая нагода для таго, каб бліжэй пазнаёміцца з парафіянамі, даведацца, як і чым яны жывуць.

Шмат хто патрабуе індывідуальнага кантакту са сваім душпастырам, але не заўсёды мае магчымасць сустрэцца са святаром, паразмаўляць, падзяліцца перажываннямі. Некаторыя проста саромеюцца забіваць ксяндзу галаву сваімі праблемамі. Таму душпастырскі візіт – выдатная магчымасць задаць тыя пытанні, якія хвалююць асобна ўзятага чалавека ці цэлую сям'ю. Канешне, падчас каляды святар павінен адведаць шмат людзей. Але не трэба бянтэжыцца, што забіраеце чужы час. Калі сказаць ксяндзу, што Вы маеце некалькі важных пытанняў, упэўнены, што ён знойдзе час на размову.

> Візіт ксяндза – нагода заахвоціць вернікаў да больш актыўнага і стараннага ўдзелу ў жыцці парафіі. Можа, і да прыняцця канкрэтных жыццёвых рашэнняў, упарадкавання сітуацыі ў сужэнстве, сям'і.

Асабістыя сустрэчы з парафіянамі дапамагаюць душпастыру зразумець і пазнаць адносіны верніка да мясцовага Касцёла. Такім чынам, адбываецца збліжэнне святара як пастыра з людзьмі. З'яўляецца пэўнае супрацоўніцтва ў дарозе да ўмацавання веры, будавання моцнай парафіяльнай супольнасці. Вернікі бачаць, што патрэбны парафіі, святару. Асабліва гэта заўважаеш, калі прыходзіш да сталых людзей. Яны цешацца, плачуць, часам нават цалуюць рукі, бо вельмі добра разумеюць сэнс старой прыказкі “Госць у дом, Бог у дом”. Упэўненыя, што са святаром да іх прыйшоў сам Езус. Вымоўнай у духоўным плане з'яўляецца каляда ў глуханямых вернікаў. Яны не чуюць маёй малітвы, бо толькі частку магу паказаць жэстамі. Але з вялікай задумай углядаюцца ў крыж, запаленыя каля яго свечкі. Засяроджана пагружаюцца ў саму атмасферу, якая пануе ў момант сустрэчы.

### Вернікі павінны адмыслова запрашаць святара, ці ён прыйдзе сам?

У кожнай супольнасці існуе свой парадак адведзін. У парафіях вядуцца картатэкі. Часцей за ўсё пробашчы наведваюць вернікаў згодна з імі. Таму чалавеку, які заўсёды прымае святара ў сваім доме, няма неабходнасці кожны год звяртацца да ксяндза з новым запрашэннем. Трэба толькі ўважліва слухаць душпастырскія аб'явы, каб ведаць, у які дзень сустракаць святара. Калі па нейкіх прычынах сям'я не можа прыняць ксяндза ў вызначаны час, неабходна папярэдне паведаміць аб гэтым у канцылярыю і дамовіцца аб пераносе візіту на іншы дзень. Аднак калі ў парафіяльнай супольнасці з'явіліся новыя вернікі, ім варта падаць свой адрас і паведаміць аб намеры прыняць у сваім доме ксяндза.

У некаторых парафіях святар наведвае толькі тых вернікаў, якія папярэдне запрасілі яго ў свой дом з душпастырскім візітам. Найчасцей гэта вялікія парафіі, дзе цяжка ўсіх абысці. І, канешне, калі чалавеку залежыць на тым, каб бліжэй пазнаёміцца з пробашчам, супольна з ім памаліцца і асвяціць свой дом, трэба падаць заяўку.



*Кс. біскуп Юзаф Станеўскі падчас душпастырскага візіту ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, 2015 год*

### Вядома, прымаць ці не прымаць у сваім доме святара – асабістая справа кожнага. Аднак існуе меркаванне, што людзі, якія адмаўляюцца ад душпастырскага візіту, успрымаюцца як непрактыкуючыя католікі. Ці гэта праўда?

Тыя, хто не прымаюць святара, зазвычай і з'яўляюцца непрактыкуючымі. Я 12 гадоў хаджу па калядзе і ведаю, што вернікі, якія рэгулярна наведваюць святыню, запрашаюць ксяндза да сябе. У свой дом не клічуць тыя, каму абыякава. Людзі часам гавораць, што вераць у Бога, але не вераць у Касцёл. Але Касцёл не прыдумаў чалавек – яго стварыў Езус. І гэта не толькі будынак і святары, але, перш за ўсё, вернікі. Чалавек лічыцца непрактыкуючым хрысціянінам не таму што не прымае ксяндза, а таму што не практыкуе сваёй веры праз малітвы, удзел у нядзельнай св. Імшы.

Бываюць таксама сітуацыі, калі пастырскі візіт для некаторых становіцца нечаканасцю. Прыгадваю выпадак, калі пазваніў у дзверы пэўнай кватэры, і мне адчыніў заспаны чалавек. Было відаць, што ён зусім не чакаў гасцей і не адразу зразумеў, хто перад ім стаіць. Калі я патлумачыў, што прыйшоў памаліцца і асвяціць жыллё, ён запрасіў увайсці. Мы доўга размаўлялі аб Богу, веры. Развітваючыся, я адзначыў, што перада мной стаіць зусім другі чалавек. Раней ён не адчуваў патрэбы святара ў сваім жыцці, быў далёкі ад Касцёла. Але пад уплывам Духа Святога пачаў задумвацца над пытаннямі, якія раней нават і не прыходзілі яму ў галаву.

> Важна падчас каляды быць шчырым у размове са святаром. Галоўнай мэтай душпастырскіх адведзін з'яўляецца жаданне пазнаёміцца з вернікамі, даведацца аб іх праблемах і меркаваннях адносна функцыянавання парафіі.

### Вельмі часта ўзнікае пытанне: колькі ахвяраваць святару за пастырскае наведванне?

У касцёле ніхто не выстаўляе цэнніка за паслугі святара і не называе канкрэтнага кошту, на які чалавек павінен арыентавацца. Таму адказ просты: хто колькі можа. Трэба падкрэсліць, што гэта менавіта ахвяра, добравольны жэст, а не аплата за “працу” святара. Атрыманыя сродкі пойдуць на патрэбы парафіі: рамонтныя працы, аплату за электрычнасць, арганізацыю сустрэч, пілігрымак ды інш. Толькі невялікая частка ахвяраванняў будзе прызначана асабіста для ксяндза.

Безумоўна, мы жывём у свеце, дзе шмат што вымяраецца грашыма. Але калі гаворым аб пастырскім наведванні, павінны ставіць на першае месца не матэрыяльны, а духоўны аспект гэтай падзеі. Ксёндз прыходзіць не дзеля грошай, а каб памаліцца, паблаславіць сям'ю і асвяціць дом, каб у ім прабываў Дух Божы.

> Немагчымасць скласці ахвяраванне на патрэбы Касцёла не павінна стаць прычынай непрыняцця ксяндза па калядзе.

### *Адкуль паходзіць звычай каляднага наведвання парафіян?*

Традыцыя сягае каранямі ў далёкае мінулае. Ужо ў раннім сярэднявеччы ў касцёльных дакументах можна знайсці згадкі душпастырскіх адведзін падчас свят Божага Нараджэння. Яны прадстаўляюць сабой форму непасрэднага кантакту пробашча з вернікамі ў вялікіх (у той час) па плошчы парафіях. Існуюць і нашмат старэйшыя доказы такой практыкі. У Евангеллі паводле св. Мацвея чытаем, што мудрацы, пакланіўшыся Езусу, вярталіся ў свае краіны іншай дарогай. Мяркуецца, што на зваротным шляху яны наведвалі розныя гарады і вёскі, дзе абвяшчалі навіну пра Бога, народжанага ў чалавечым абліччы. У Евангеллі паводле св. Лукі гаворыцца, што Хрыстос наказаў сваім вучням ісці “ў кожны горад і месца, куды сам меўся пайсці” (Лк 10, 1). Дарэчы, здзяйсняць душпастырскія адведзіны сваіх парафіян святароў абавязвае Кодэкс кананічнага права. У ім чытаем: “Пробашч павінен наведваць сем'і, раздзяляючы клопаты, а асабліва смутак і скруху вернікаў, суцяшаючы іх у Пану, а таксама разважліва настаўляючы іх, калі ў нечым зграшылі” (ККП, кан. 529 § l).

### *Да душпастырскага візіту неабходна падрыхтаваць:*

- накрыты белым абрусам стол,
- крыж, запаленую свечку, Святое Пісанне,
- асвечаную ваду і крапіла *(калі няма святой вады, можна ўзяць звычайную і папрасіць святара блаславіць яе).*

### *Парадак каляды:*

- выходзім ксяндзу насустрач ці просім суседа прывесці святара ў наш дом;
- выключаем тэлевізар, радыё, камп'ютар;
- рэлігійныя прадметы, якія хочам асвяціць, кладзём на стол / лаву;
- на хрысціянскае прывітанне ***“Хвала Хрысту!”*** адказваем ***“На векі вечныя. Амэн”;***
- прымаем актыўны ўдзел у супольнай малітве;
- калі святар акрапляе жыхароў дома святой вадой, робім знак крыжа;
- пасля заканчэння каляды праводзім ксяндза да суседа.

***Кінга Красіцкая***

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Фрагмент з Евангелля (Мц 1, 18–24) паказвае нам дзвюх асоб, якія больш за іншых удзельнічалі ў таямніцы Любові: Марыю і Яе жаніха Юзафа. Яны, першымі прыняўшы Езуса з верай, уводзяць людзей ва ўрачыстасць Божага Нараджэння. Марыя дапамагае стаць адкрытымі на Хрыста ў сваім жыцці, у сваім целе. Юзаф падштурхоўвае заўсёды шукаць Божай волі і выконваць яе з поўным даверам.*

*“Вось Дзева зачне і народзіць Сына, і дадуць Яму імя Эммануэль, што азначае «з намі Бог»” (Мц 1, 23). Няхай гэтае абвяшчэнне надзеі, якое спаўняецца падчас Нараджэння Пана, рэалізуе і наша чаканне Усемагутнага: у кожным з нас, ва ўсім Касцёле і ўсіх малых, якімі пагарджае свет, але так любіць Бог.*

*“Анёл Панскі” са Святым Айцом, 18.12.2016*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Па прыкладзе пастушкоў з ваколіц Бэтлеема мы набліжаемся да ўбогай стаенкі, глядзім на Божае Немаўля, ахінутае ў пялёнкі і пакладзенае ў яслях, складаем Яму паклон. А таксама, поўныя здзіўлення, пытаем сябе: чаму Бог, Стварыцель і Пан усяго свету, вырашыў прыйсці да людзей менавіта такім чынам? Навошта з'яўляецца Дзіцём – далікатным, безабаронным, патрабуючым апекі? З якой мэтай нарадзіўся не ў сталіцы, у каралеўскім палацы, а ў малым правінцыйным Бэтлееме? Ды ў дадатак не ў заездзе сярод набожных пілігрымаў, а ў пячоры, ужыванай як хлеў, у яслях для жывёлы.*

*Так сталася, таму што праз таямніцу нараджэння Божага Сына Айцец прагнуў сказаць нешта вельмі важнае. Магчыма, хацеў, каб кожны чалавек (нават самы просты, бедны, які знаходзіцца на ніжэйшай прыступцы сацыяльнага статусу) бачыў у Езусе сапраўднага Эммануэля – Бога, які заўсёды з намі. Можа, зрабіў так, каб знікла ўсякая адлегласць, што аддзяляе людзей ад Хрыста, каб ніхто не адчуваў сябе непатрэбным Богу і не думаў, што Пан яго не любіць і не разумее. Можа, хацеў прыгадаць, што кожны чалавек мае неад'емную годнасць Божага дзіцяці, якая зусім не залежыць ад таго, дзе жывеш, якую пасаду займаеш, што ляжыць у партфелі ці на рахунку ў банку.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Пастэркі ў гродзенскай катэдры, 24.12.2016*



◆ Папа Францішак раздзяліў святочны сняданак з беднымі. У дзень свайго 80-годдзя Пантыфік запрасіў бяздомных у сталовую Дома св. Марты ў Ватыкане. Сярод іх было 4 італьянцы, 2 румына, малдаванін і перуанец. З кожным Папа пагаварыў і прэзентаваў аргентынскія прысмакі. У сваю чаргу госці падарылі Святому Айцу сланечнікі на знак Царквы, якая заўсёды паварочваецца ў бок сонца, якім з'яўляецца Хрыстос. Дарэчы, у Дзень нараджэння Пантыфік атрымаў больш за 70 тысяч віншавальных лістоў. Больш за ўсё на англійскай, іспанскай і польскай мовах.

◆ Пераўтварэнне запечанай крыві мучаніка IV стагоддзя св. Януарыя звычайна адбываецца ў Неапалі 3 разы на год: у першую суботу мая, 19 верасня і 16 снежня. На гэты раз у снежні цуд не здарыўся, што многія ўспрымаюць як дрэнны знак. Традыцыя сведчыць, што, калі цела св. Януарыя перанеслі, запечаная кроў, сабраная ў 2 ампулы, у руках біскупа стала вадкай. Першы такі апісаны выпадак адбыўся ў 1389 годзе, калі ўпершыню былі публічна паказаны ампулы. Хоць цуд ужо неаднаразова вывучалі, да гэтага часу не вядома, што з'яўляецца яго прычынай.

◆ "Карытас" Пакістана на плануе высадзіць 3 млн дрэў. Мэта акцыі – павысіць інфармаванасць грамадства адносна кліматычных змен. Адкрываючы запланаваную на 3 гады акцыю, абп Джозэф Кутс пасадзіў у Лахоры аліўкавае дрэва. "Наша кампанія датычыць не рэлігіі, а ўсяго народу", – сцвердзіў іерарх. Пакістан з'яўляецца адной з краін найбольш закранутых зменамі клімату. "Карытас" вылучыць сродкі на акцыю часткова з уласных фондаў, але таксама разлічвае на падтрымку кіраўніцтва дзяржавы.

◆ У луцкім супермаркеце (Украіна) з'явіўся стэлаж, дзе жадаючыя могуць пакінуць хлеб для людзей, якія не ў стане набыць яго самастойна. Палічка размешчана ў гандлёвай зале непадалёк ад кас, што робіць яе заўважнай. "Ідэю я падгледзеў у супермаркетах Хмяльніцкага і вырашыў арганізаваць такую ж ініцыятыву ў Луцку, – распавядае грамадскі актывіст Ігар Аляксееў. – Акцыя называецца «Адкладзены хлеб». Я ўсталяваў у крамах ужо 5 такіх паліц. Зараз раблю яшчэ 10".

◆ Да ролі ў фільме пра езуітаў пад назвай "Цішыня" акцёр Эндру Гарфілд рыхтаваўся на ігнацыянскіх рэкалекцыях. У духоўных практыкаванных артыста, вядомага па галоўнай ролі ў кінастужцы "Чалавек-павук", суправаджаў а. Джэймс Марцін SJ. Як прызнаецца Эндру, ён быў "напоўнены жаданнем распаўсюджваць вучэнне Хрыста". Фільм зняты паводле аднайменнага рамана Сюсаку Энда пра 2-ух езуітаў, якія адправіліся на місіі ў Японію. Стужка выйшла на экраны кінатэатраў у канцы снежня мінулага года.

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

**Ангеліна Пакачайла**

# Аплаткавыя сустрэчы

Тыдзень таму перажывалі ўрачыстасць Божага Нараджэння. Незаўважна мінула і актава свят. Але калядны час прадаўжаецца і будзе трываць аж да свята Ахвяравання Пана. Па традыцыі ў гэты перыяд вернікі ладзяць аплаткавыя сустрэчы. Прыгожы звычай аб'ядноўвае не толькі родных і блізкіх, але і сяброў, калег, супольнасці... Людзей звязвае вера ў Збаўцу, які прыйшоў у свет больш за 2 тысячы гадоў таму.

Усе ламаюцца аплаткай, якая сімвалізуе братэрства, любоў, супакой і паяднанне. Тым самым сабраныя сведчаць аб тым, што Езус прысутны сярод іх: "Бо, дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх" (Мц 18, 20).

Дзяленне аплаткай азначае, што людзі хочуць быць разам, жыць у міры і згодзе, з пакорай прымаючы ўсе радасці і нягоды. Перапрашаюць адзін аднаго, прабачаюць крыўды, складаюць сардэчныя пажаданні.

Па прыкладзе Езуса мы павінны дзяліцца сабою з бліжнімі. Хрысціяніну належыць быць як "хлеб штодзённы" – наталяць голад патрабуючых. Пра гэта нагадвае само слова "аплатка", якое паходзіць ад лацінскага "oblatum", або "ахвярны дар". І як хлеб – гэта асноўная, штодзённая ежа чалавека, так "харчаваннем" для верніка з'яўляецца любоў. А калі ёсць хлеб і любоў, для перажывання дня гэтага дастаткова.

## Аплаткавая сустрэча прайшла ў Шчучыне

**На спатканні ў кляштары айцоў піяраў сабраліся міністранты, харысткі і іх бацькі.**



Святочная падзея распачалася супольнай малітвай – Вяночкам дванаццаці зорак, якую некалі запісаў св. Юзаф Каласанс, заступнік літургічнай службы алтара і моладзевага хору "Каласанс". Сабраныя прасілі Бога аб супакоі, адзінстве і радасці ў сваіх сем'ях. Пасля падзяліліся аплаткай, складаючы адзін аднаму святочныя пажаданні. Нечакана на сустрэчу завітаў св. Мікалай, які прынёс прысутным салодкія падарункі. На заканчэнне вернікі заспявалі традыцыйныя калядныя песні.

## Аплаткавая сустрэча адбылася ў Смаргоні

**У ёй прынялі ўдзел ксяндзы салезіяне, сёстры салезіянкі, прынавіцы, а таксама іх бацькі і родныя.**



Напачатку сабраныя паслухалі ўрывак з Евангелля, які распавядае аб нараджэнні Збаўцы. Потым разам заспявалі калядкі. Падчас дзялення аплаткай склалі адзін аднаму пажаданні і перапрасілі за крыўды. На завяршэнне рэгіянальны настаяцель салезіянскага таварыства на Беларусі кс. Віктар Гайдукевіч SDB выказаў задаволенасць тым, што такое спатканне адбылося. Прысутныя падзякавалі за магчымасць сабрацца разам і агучылі спадзяванні, што гэта не апошняя сустрэча ў падобным фармаце.

## Аплаткавая сустрэча для супрацоўнікаў курыі адбылася ў Гродне

**На ёй сабраліся як духоўныя, так і свецкія асобы. У спатканні прынялі ўдзел біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі.**



Святочныя віншаванні для іерархаў склаў віцэ-канцлер курыі кс. канонік Антоній Грэмза. Святар пажадаў біскупам і далей весці вернікаў шляхам збаўлення. Ардынарый дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч выказаў словы ўдзячнасці супрацоўнікам курыі за адданую і ахвярную службу, якую яны нясуць у Касцёле. "Няхай ваша праца будзе прыгожым сведчаннем служэння Богу і чалавеку", – пажадаў іерарх. Сабраныя падзяліліся аплаткай і склалі адзін аднаму сардэчныя пажаданні.

## Аплаткавыя сустрэчы святароў Гродзенскай дыяцэзіі адбыліся ў Лідзе і Гродне

**У іх удзельнічалі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі.**



Складаючы віншаванні, біскупы дзякавалі святарам за ахвярнае служэнне і душпастырскія акцыі, якія тыя рэалізуюць у парафіяльных супольнасцях. Жадалі патрэбных сіл і натхнення, згоды і міру, вернасці Богу і адкрытасці на кожнага чалавека. Ад імя ўсіх святароў дыяцэзіі біскуп Юзаф Станеўскі выказаў удзячнасць біскупу Аляксандру Кашкевічу за тое, што 25 гадоў вядзе Касцёл на Гродзеншчыне. На завяршэнне іерархі ўдзялілі прысутным пастырскае благаслаўленне.

## Расклад запланаваных спатканняў

Па агульнапрынятаму звычаю ў Гродзенскай дыяцэзіі адбываюцца аплаткавыя сустрэчы розных супольнасцей з удзелам іерархаў мясцовага Касцёла – ксяндзоў біскупаў Аляксандра Кашкевіча і Юзафа Станеўскага.

**5 студзеня – аплаткавая сустрэча членаў Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN".**
19.15 – св. Імша ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля – аплаткавае спатканне і канцэрт.

**7 студзеня – аплаткавая сустрэча студэнтаў катэхетычных курсаў пры аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі.**
17.00 – св. Імша ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля – аплаткавае спатканне і тэатральнае прадстаўленне ў будынку біскупскай курыі.

**8 студзеня – аплаткавая сустрэча членаў Душпастырства настаўнікаў і выхавацеляў.**
16.00 – св. Імша ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля – аплаткавае спатканне.

**9 студзеня – аплаткавая сустрэча манаскіх сясцёр, якія нясуць паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі.**
10.00 – адарацыя, канферэнцыя, св. Імша ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля – аплаткавае спатканне.

**15 студзеня – аплаткавая сустрэча членаў Душпастырства цвярозасці.**
9.00 – св. Імша ў лідскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа. Пасля – аплаткавае спатканне ў Доме культуры.

**15 студзеня – аплаткавая сустрэча членаў Душпастырства службы аховы здароўя.**
16.00 – св. Імша ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля – аплаткавае спатканне.

**15 студзеня – аплаткавая сустрэча Душпастырства чыгуначнікаў.**
12.00 – св. Імша ў гродзенскім касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля. Пасля – аплаткавае спатканне.

*Паводле grodnensis.by*

# Мёд для людзей у патрэбе, альбо як прайшла вігілія для бедных


Амаль усе месцы за святочным сталом занятыя

У вялікай зале дома сясцёр назарэтанак у Гродне напярэдадні Божага Нараджэння пахла грыбным супам. На традыцыйную аплаткавую сустрэчу там сабраліся гарадзенцы, якія не маюць свайго дому, чым прытулкам з'яўляецца начлежка, а таксама асобы, якія маюць жыллё, але сродкаў на штодзённае жыццё не хапае. Адбылося спатканне дзякуючы фінансавай падтрымцы дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас".


Ламанне аплаткай спалучаецца са складаннем пажаданняў

...Каля вялікіх металічных дзвярэй гасцей сустракае спадарыня Наталля. На працягу вось ужо 5-ці гадоў яна дапамагае сёстрам назарэтанкам гатаваць пасілкі для бедных. Разам з ёй удзельнікаў спаткання запрашаюць да святочнага стала і прадстаўнікі "Карытас". Да ўваходу час ад часу прыбягае с. Нэрэуша, выглядваючы, ці хто не ідзе. Менавіта яна ў гэты раз адказная за арганізацыю "аплаткі".

Зала паволі запаўняецца. Пад ціхую мелодыю калядных песень удзельнікі займаюць месцы. ***"Чыстыя, надушаныя",*** – заўважае з усмешкай адна з сясцёр. На ўпрыгожаных сталах акрамя хлеба і слодычаў перад кожным стаіць мёд. ***"На мінулым тыдні да нас прыходзіў мужчына з пытаннем, ці можа ахвяраваць мёд для людзей у патрэбе. Другі ахвотны нядаўна прынёс яблыкі",*** – распавядае с. Тэрэза.

Абвяшчаюць пачатак. Размовы сціхаюць. Адзін з клерыкаў чытае фрагмент з Евангелля. Пасля благаслаўлення аплатак дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі звяртаецца да сабраных. Гаворыць пра тое, што Езус, які нарадзіўся ў беднасці, прыходзіць у сэрца кожнага чалавека. Ён з'явіўся на свет, каб даць людзям сілу, надзею. Менавіта гэтай самай веры ў лепшае жыццё і ўзаемнай любові жадае прысутным ксёндз біскуп. Звяртае ўвагу на тое, што сабраныя ствараюць адну сям'ю і важна падтрымліваць адзін аднаго ў нялёгкім жыцці.

Удзельнікі сустрэчы дзеляцца аплаткай. ***"Калі падыходзіш да гэтых людзей, бачна, што іх кранае тое, што былі заўважаныя, адчуваюць «людскія» адносіны да сябе",*** – падкрэслівае с. Марыя.

Пасля наступае доўгачаканы абед. Супам гасцей частуюць усе: і сёстры назарэтанкі, і клерыкі, і дырэктар гродзенскага "Карытас" кс. доктар Раман Рачко. На пытанне біскупа Юзафа "куды ставіць міску" адна з сясцёр проста адказвае: "Дзе бачыце свабоднае месца, там і стаўце, Эксцэленцыя". На другое падаюць печаную бульбу долькамі з сялёдкай ды буракамі.

Многія не першы раз прысутнічаюць на аплаткавым спатканні. Прызнаюцца, што прыемна на ім быць. Ад знаёмых даведалася пра "аплатку" адна з удзельніц сёлетняй сустрэчы: ***"Я працую, але заробак вельмі маленькі. І мне падказалі, што можна сюды прыйсці".***

С. Нэрэуша распавядае пра радасць, якую бачыць у вачах сабраных: ***"Людзі заўсёды ўдзячныя, бо для іх гэта важна. Сёння асабліва задаволеныя. Хіба, даўно столькі падарункаў не атрымлівалі: і мёд для іх ахвяравалі, і «Карытас» таксама гасцінцы сабраў".***

Часам можа ўзнікнуць пытанне: навошта дапамагаць людзям, якія, здаецца, самі вінаваты ў сваім бядотным становішчы? На думку дырэктара Дабрачыннага каталіцкага таварыства кс. Рамана Рачко, не чалавечай справай з'яўляецца асуджэнне іншых. ***"З аднаго боку, мы разумеем, што кожны нясе адказнасць за сваё жыццё. І таму часам самі з'яўляемся прычынай уласных радасцей і няшчасцяў. Толькі не маем права асуджаць іншых, іх выбар. Наша заданне як хрысціян – праяўляць любоў да бліжніх. Думаю, найлепшы таму прыклад зараз падае папа Францішак, які і словамі, і ўчынкамі гаворыць нам, каб ішлі і дапамагалі іншым, практыкавалі любоў, а не разважалі і крытыкавалі".***


Падзяліцца аплаткай – значыць заўважыць чалавека, праявіць да яго шчырасць і дабрыню

*Як хрысціянін павінен дапамагаць людзям у патрэбе, якіх спатыкае на вуліцы? А ці ўвогуле павінен? Чаму можна гаварыць аб карысці такога ўзаемадзеяння для дзвюх бакоў? Прапануем слушныя думкі на гэты конт, паводле wydawnictwowam.pl, ад с. Малгажаты Хмялеўскай, настаяцельніцы супольнасці "Хлеб Жыцця" ў Польшчы. Яна на працягу многіх гадоў дапамагае бедным, арганізуе дамы і начлегі для бяздомных, хворых людзей, адзінокіх маці.*

**Усё залежыць ад чалавека і сітуацыі, у якой ён апынуўся.** Сярод бяздомных у нашых дамах ёсць людзі, якія патрабуюць толькі хвіліны, каб прыйсці ў сябе. Яны маюць сацыяльныя навыкі паводзін у грамадстве, не залежаць ад алкаголю ці наркотыкаў. Проста так сталася, што зараз апынуліся без жылля, бо штосьці ў іх жыцці пайшло не так. Людзі з гэтай катэгорыі вельмі хутка знаходзяць працу і высяляюцца. У той жа час ёсць вялікая колькасць людзей, якім неабходны гады. Напрыклад, выхаванцам дзіцячых дамоў. Шмат часу трэба прысвяціць для работы з імі. У першую чаргу, гэта тычыцца веры ў сябе. Такія людзі мусяць навучыцца жыць у грамадстве. У дзіцячым доме гэтаму не навучылі. Да таго ж, трэба разабраць шэраг разнастайных эмацыйных праблем.

**Калі чалавек галодны, трэба не разважаць, чаму ён апынуўся ў такім становішчы, а проста даць таму паесці.** Толькі пазней у залежнасці ад сітуацыі можна паспрабаваць даведацца аб прычынах дадзеных абставін. А яны могуць быць вельмі розныя.

**Дапамога бліжняму – свядомы выбар кожнага чалавека.** Людзей абавязвае звычайная салідарнасць, хрысціян – міласэрнаць, сэнс якой не ў літасці, але ў тым, каб даць чалавеку магчымасць дарастаць да таго, дзеля чаго быў створаны Богам.

**Людзі будуюць сябе настолькі, наколькі будуюць у сабе любоў.** Вядома, гэтаму чалавек вучыцца. Але падручніка па любові няма – яе трэба пазнаваць праз уласны досвед.

**Кацярына Паўлоўская**

## Лісты чытачоў

*Па волі Айца ў Бэтлееме нарадзіўся Збаўца. Ён прыйшоў у свет, каб ачысціць чалавецтва ад грахоў і падарыць людзям вечнае жыццё. За гэта Яму давялося заплаціць высокую цану – быць распятым на крыжы. Але затым Хрыстос уваскрос, абвясціўшы свету бязмежную крыніцу Божай міласэрнасці. І застаўся навечна жывы – у чалавечых сэрцах і душах.*

*Напярэдадні вялікага свята Нараджэння Пана людзі заміраюць у чаканні чарговага прыйсця Езуса. Углядаюцца ў неба ў пошуках першай зоркі, якая нагадвае пра велічную падзею, што адбылася больш за дзве тысячы гадоў таму...*

*Трывае час, калі варта ў чарговы раз падзякаваць Богу за Яго любоў да нас. Умацуемся ў думцы, што з Усемагутным ніякія нягоды не страшныя. З Ім магчыма ўсё. Няхай марнасць сыдзе ў мінулае. Прабачым бліжняму крыўды, стаўшы дабрэйшымі адзін да аднаго. І тады ў кожным доме запаліцца агеньчык Хрыстовага супакою, які асвятляе жыццё сардэчнасцю і спагадай.*

***Ганна Козыч, г. Гродна***




Nasz Dziennik.pl

### Юбілейная выстава прыгадвае цуд сонца

***У фацімскім санктуарыі адкрыта выстава, прысвечаная феномену т. зв. "танцу сонца", які назіралі ў дзень апошняга з'яўлення Марыі 3-ом пастушкам 13 кастрычніка 1917 года.***

*Выстава падрыхтавана з нагоды юбілею 100-годдзя аб'яўленняў у Фаціме. Экспазіцыя пад назвай "Колеры сонца" складаецца з фатаграфій, цэнных экспанатаў, а таксама гукавых механізмаў. Яна будзе прадстаўлена для бясплатнага прагляду ў падвалах касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Фаціме на працягу 2-ух гадоў.*




### Папа Францішак – самы надзейны чалавек

***Да Святога Айца з даверам ставяцца больш за 85% італьянцаў. Сярод католікаў гэтая колькасць узрастае да 90%.***

*Папе Францішку давяраюць таксама 68% жыхароў Апенінскага паўвострава, што прэзентуюць сябе няверуючымі ці некатолікамі. Інфармацыя пададзена інстытутам вывучэння грамадскай думкі "Demopolis", які правёў апытанне з нагоды 80-годдзя з дня нараджэння Пантыфіка.*

*Больш за ўсё людзям у асобе Папы падабаюцца спантаннасць, глыбокае суперажыванне рэальным патрэбам людзей, а таксама тое, што Святы Айцец можа весці дыялог як з веруючымі, так і з няверуючымі. Ён адкідвае кампрамісы і клапоціцца аб самых бедных.*




### У Ватыкане адрэстаўравана галерэя антычных скульптур

***"Braccio Nuovo" адкрылася для наведвальнікаў пасля 7-гадовага перыяду аднаўлення.***

*Рэстаўрацыя тычылася не толькі памяшкання выставачнай залы, але і твораў мастацтва агульнай колькасцю 140 скульптур.*

*Галерэя пабудавана ў XIX стагоддзі па ініцыятыве папы Пія VII. Уздоўж сцен знаходзяцца 28 ніш, у якіх размешчаны старажытныя рымскія і грэчаскія статуі. Паміж імі змешчаны бюсты выдатных постацей эпохі антычнасці.*

***Кінга Красіцкая***

## "Дзеці – нованароджанаму Хрысту"

*Пад такім дэвізам у Іўі прайшоў конкурс батлеек, які ўжо стаў традыцыйным у парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла.*



На суд журы было прадстаўлена каля 80-ці прац, выкананых у шматлікіх тэхніках з выкарыстаннем разнастайнага матэрыялу. Праз творчыя працы дзеці разам з дарослымі імкнуліся адлюстраваць адну з прыгажэйшых і важнейшых падзей у хрысціянстве – Божае Нараджэнне.

Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі падарункі ад пробашча парафіі кс. Яна Гавецкага і зычлівых людзей. Аўтарам лепшых прац былі ўручаны прызы ад Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі (веласіпеды, настольныя гульні, цацкі). Паводле добрай традыцыі, некаторыя батлейкі былі падараны адзінокім старэйшым парафіянам.

## Пабачыла свет 10-е выданне зборніка "Studia Theologica Grodnensia"

*Сярод іншых у ім змешчаны даклады кардынала Зянона Грахалеўскага, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, біскупа Ежы Мазура SVD, біскупа Генрыха Цярэшкі, агучаныя падчас I Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу ў Гродне.*




Навукова-тэалагічны зборнік прысвечаны 25-годдзю біскупскай сакры першага ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча. Уключае артыкулы на 4-ох мовах: польскай, беларускай, рускай, італьянскай. Першая частка выдання складаецца з матэрыялаў канферэнцый і сімпозіумаў, другая – з навуковых артыкулаў, трэцяя – са справаздач. Дадзены зборнік першы такога роду ў Касцёле ў Беларусі.

Рэдакцыйная калегія разлічвае, што выданне знойдзе сваіх чытачоў, заахвочваючы да навуковай актыўнасці ў сферы пазнання тэалагічнай праўды духавенства і свецкіх вернікаў, якім важная праблематыка жыцця Паўсюднага і мясцовага Касцёла.

## Бэтлеемскае святло міру заззяла ў Гродне

*Харцэры прывезлі агонь супакою ў катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя з польска-беларускай мяжы. Бэтлеемскі агонь прыняў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*



Іерарх нагадаў пра яго багатую сімволіку і звярнуўся да прысутных з просьбай занесці гэты агонь не толькі ў свае дамы, але таксама да людзей самотных, церпячых з прычыны хваробы або пажылога ўзросту. "Агонь дае цяпло, – заўважыў ардынарый. – Як жа моцна мы прагнем гэтага цяпла Божай любові! Як жа патрэбна яно сем'ям, супольнасцям, парафіям і ўсяму грамадству! Няхай нашы сэрцы, разагрэтыя ў агні Божай міласэрнасці, запалаюць любоўю да бліжняга, прыхільнасцю, лагоднасцю, бескарыслівасцю, прабачэннем і паяднаннем".

Вандроўка Бэтлеемскага агню сёлета праходзіць пад дэвізам "Адважна ствараймa мір". Праз гэтыя словы арганізатары заклікаюць людзей да будавання міру ў сваім асяроддзі. Ініцыятары акцыі жадаюць, каб у кожным народзе і кожнай сям'і запанаваў супакой, які сёння так патрэбны свету, ахопленаму тэрарыстычнымі настроямі.

## Завяршыўся першы этап працы над аднаўленнем гродзенскага Лямуса

*У межах рэстаўрацыі былі разабраны ўнутраныя сцены і элементы пабудовы, якія не з'яўляюцца аўтэнтычнымі і паходзяць з больш позняга перыяду. Спецыялісты ўзмацнілі і, у большай ступені, замянілі фундамент пад будынкам.*



Драўляны лямус пабрыгіцкага кляштара датуецца 1796 годам і з'яўляецца ўласнасцю Гродзенскай дыяцэзіі. Пасля рэстаўрацыі ў ім з'явіцца музей, дзе будуць прадстаўлены шматлікія экспанаты – помнікі гісторыі Гродзеншчыны.

Аднаўленнем унікальнай старадаўняй пабудовы займаецца Гродзенская дыяцэзія ў супрацоўніцтве з Элцкай (Польшча). Значную матэрыяльную падтрымку ў рэалізацыі праекта аказвае Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы (у рамках праграмы "Культурная спадчына" і "Ахова культурнай спадчыны за мяжой"). Фінансаванне складае каля 85% ад агульнага кошту ўсіх прац.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліў Імшу пастэрку ў катэдральнай базіліцы

*У Вігілію Нараджэння Пана ардынарый цэлебраваў урачыстую Эўхарыстыю, у якой прынялі ўдзел шматлікія парафіяне і вернікі горада.*



У гаміліі іерарх адзначыў, што святая ноч назаўсёды змяніла ход гісторыі, надала новы сэнс дзеям чалавецтва. "Бог даў нам свайго Сына, Езуса Хрыста, які стаў Чалавекам і прыйшоў у гэты свет", – сказаў біскуп. Падкрэсліў, што Збаўца аб'явіў людзям Божую любоў, каб яна перамяніла іх душы, дапамагла кожнаму знайсці шлях да сэрца бліжняга – шлях паяднання, суперажывання, дабрыні, узаемнай любові. Ардынарый заахвоціў прысутных падаць адзін аднаму руку і прабачыць усе правіны і крыўды.

На заканчэнне св. Імшы біскуп Кашкевіч склаў вернікам святочныя віншаванні, запрашаючы да таго, каб Езус Хрыстус быў Панам жыцця кожнага. Іерарх таксама пажадаў, каб Новы 2017 год стаў добрай нагодай адкрыцца на іншага чалавека.

## Валанцёры grodnensis.by зладзілі калядную сустрэчу для дзяцей

*Моладзь наведала Гродзенскі дзяржаўны гарадскі сацыяльна-педагагічны цэнтр і павіншавала яго выхаванцаў са святам Раства Хрыстова.*



Валанцёры інтэрнэт-партала Гродзенскай дыяцэзіі падрыхтавалі для хлопцаў і дзяўчат забаўляльную праграму, а таксама прывезлі ім настольныя гульні і слодычы. Падарункі былі набыты за кошт ахвяраванняў вернікаў з катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя.

Гродзенскі сацыяльна-педагагічны цэнтр з'яўляецца пунктам часовага прабывання дзяцей (ад 3 да 18 гадоў), якія засталіся без апекі бацькоў, пастаяннага месца жыхарства ці самавольна пакінулі сям'ю. Супрацоўнікі ўстановы апекуюцца дзецьмі, пакуль тых не вернуць бацькам або не ўладкуюць у прыёмную сям'ю.

## АНОНСЫ

### У ГНЕЗНЕ ПАМОЛЯЦЦА ЗА КС. КАНОНІКА ЛЮДВІКА СТАНІШЭЎСКАГА

**Св. Імша ў інтэнцыі спачылага святара ў 30-ты дзень пасля смерці адбудзецца 3 студзеня ў парафіяльным касцёле св. Міхала Арханёла ў 11.00.**

На супольную малітву запрашаюцца святары, манаскія сёстры і вернікі.

*Прыгадаем, святар адышоў у жыццё вечнае пасля цяжкай хваробы 2 снежня 2016 года.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ЖЫЦЦЁВАЙ ДАРОГІ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДЗЕНСКАЙ СЕМІНАРЫІ

**Духоўныя практыкаванні на тэму "Прыйшлі пакланіцца Яму" (Мц 2, 2) будуць трываць з 6 па 8 студзеня 2017 года. Да ўдзелу запрашаюцца юнакі ад 14-ці гадоў. Прысутным прадставіцца магчымасць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, узбагаціць веды адносна праўдаў веры і малітвы.**

Ахвотным неабходна паведаміць аб сваім жаданні да 3 студзеня. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.

*Кантактныя тэлефоны:*
*(8 029) 695-24-69 – кс. Валерый Быкоўскі,*
*(8 029) 744-99-61 – кс. Андрэй Лішко,*
*(8 0152) 77-02-34 – семінарыя.*

### ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**Святочны канцэрт па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча. Пройдзе 29 студзеня ў Доме культуры ўжо ў 16-ты раз. Пачатак у 14.00.**

Да ўдзелу запрашаюцца суполкі, хоры, салісты. Выступіць можа любы жадаючы. Узрост не абмежаваны.

*Аб сваім жаданні неабходна праінфармаваць да 15 студзеня пробашча парафіі ў Сапоцкіне кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 або (8 0152) 99-21-30.*

### VI ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ "ДАСТУКАЦЦА ДА НЯБЁСАЎ" ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Трохгадзінны канцэрт адбудзецца 11 лютага ў Доме культуры тэкстыльшчыкаў. Пачатак у 19.00. Тэмай сёлетняга фестывалю стануць словы "Каб усе былі адно".**

Упершыню фестываль адбыўся ў Астраўцы ў студзені 2012 года як рок-фестываль рэлігійнай песні. Затым – у Гудагаі. Апошнія 3 гады фестываль праходзіць у Баранавічах. За гэты час на сцэне выступалі такія гурты, як "AVE" (г. Гродна), "The Cross Way" (г. Баранавічы), "United in Spirit" (г. Баранавічы), "Laudans" (г. Мінск), "Небасхіл" (г. Мінск) і іншыя.

*Арганізатары абяцаюць гасцям шмат прыемных сюрпрызаў. Уваход бясплатны.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 студзеня 1967 г.** – кс. Баляслаў Красадомскі, *проб. Ішчолна;*
**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі;*
**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку і Алегу Буткевічу, паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Безляповічу, Паўлу Скубу, Аляксандру Сямінскаму, Аляксандру Мацкевічу, Валерыю Спірыдону, Юрыю Ясевічу, Віталію Дабраловічу, Айцу Казіміру Жылісу, усім Ксяндзам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі, Рэктару і Клерыкам Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства пажаданняў: здароўя на доўгія гады, Божай радасці на кожны дзень паслугі, добразычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу, сілы ў пераадоленні чалавечых слабасцей і жыццёвых перашкод. Няхай Святы Дух не пакідае, Маці Божая моцна трымае за руку, а святыя Заступнікі заўсёды будуць побач.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, паважаным Айцу Казіміру Жылісу, Ксяндзам Лешку Дамагале, Люцыяну Радомскаму, Андрэю Лішко, Марэку Занеўскаму, Пробашчу Тадэвушу Крыштопіку і ўсім Святарам, якія абвяшчалі Божае слова і здзяйснялі душпастырскую паслугу ў нашай святыні,**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх ласк у штодзённым жыцці. Няхай Бог аберагае на працягу ўсяго жыцця і раз'ясняе над Вамі сваё аблічча, а Маці Божая апекуецца. Ад усяго сэрца дзякуем за шчырыя сэрцы і адкрытыя на кожнага чалавека душы. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт і зычлівыя парафіяне з капліцы Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Алегу Канановічу, Уладзіславу Сурвілу, Валерыю Быкоўскаму, Віталію Сідорку, Вячаславу Матукевічу, Саніславу Пацыну, Андрэю Зноску, Юрыю Бяганскаму, Андрэю Кеўлюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем радасных і пагодлівых дзён, мноства шчаслівых хвілін і поспехаў у Новым годзе. Няхай Дзіцятка Езус блаславляе Вам на доўгія гады служэня Богу і людзям, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай дабрыні.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі Ліда-Фара*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму і паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а нованароджаны Езус адорвае сваімі ласкамі і добрым здароўем на доўгія гады жыцця, сілай і стойкасцю, каб магчы пераадольваць усе цяжкасці на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу і Калектыву рэдакцыі газеты "Слова Жыцця"**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою і поспехаў у працы, добрых і светлых дзён. Няхай побач будуць толькі добразычлівыя людзі, якія дораць як мага больш цеплыні і ласкі, Дзіцятка Езус адорвае сваім блаславеннем, Маці Божая заўсёды апекуецца, а Святы Дух удзяляе шчодрыя ласкі на кожны дзень жыцця. Вясёлых свят!

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Яну Кучынскаму, Паўлу Скубу, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Айцу Казіміру Жылісу і Клерыку Валерыю Каралю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог чувае над Вамі і блаславляе, а Маці Божая ахінае плашчом мацярынскай апекі. Шчасці Божа!

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму і Клерыку Артуру Ляшнеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, радасці, усмешак і душэўнага супакою. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас ласкамі і блаславеннем, а Насвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом сваёй апекі. Шчодрых дароў Святога Духа і добрых, зычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*З удзячнасцю, былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчасця, поспехаў. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях, нясе супакой у сэрца і душу, а Дзіцятка Езус і Яго Найсвяцейшая Маці блаславляюць Вас.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Сядлецкаму і Тадэвушу Качану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні: здароўя, душэўнага супакою, сілы і радасці на кожны дзень. Няхай Дзіцятка Езус апраменіць сваім святлом, Найсвяцейшая Маці прытуліць да свайго сэрца, а святарская паслуга прыносіць задавальненне і шчодры плён.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі, касцёльны хор і парафіяне з Канвелішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мураўскаму, Паўлу Раманоўскаму, Віктару Захарэўскаму, Юзафу Багдзевічу, Алегу Каралю, Клерыку Юрыю Пашкаўцу, а таксама Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Веранікі Блізнюк, Дар'і Еўтухоўскай, Веранікі Огар, Мар'яне Алешчык, Алясандры Арэшка, Філатэі Ціхановіч, Клары Волчэк і Агаце Смольскай**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае Дзіцятка адорвае Вас здароўем, будзе побач на шляху, які выбралі, дапамагае весці людзей да Пана, а таксама ўмацоўвае Вас сваімі дарамі і супакоем, каб маглі раздаваць дабро там, дзе яно патрэбна.

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму і Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас здароўем і радасцю. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе найлепшай дарогай да Пана. Дзякуем за аддане служэнне Богу і людзям, добрае сэрца, любоў і цярплівасць да нас. Радасных свят!

*Працаўнікі Радунскага агароднінасушыльнага камбіната*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка прывядзе Вас да шчасця і радасці ў Новым годзе, а нованароджаны Езус адорыць здароўем, дадасць сіл і цярплівасці ў рэалізацыі ўсіх спраў і задум.

*Парафіяне з касцёла свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Паважаным Айцу Андрэю Жылевічу, Ксяндзам Андрэю Лысаму і Сяргею Ангуру**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай з нованароджаным Езусам у радасці і любові плывуць хвіліны жыцця, а супакой, як Бэтлеемская зорка, заяснее ў Вашых сэрцах. Жадаем моцнага здароўя, надзеі, любові, а таксама поспехаў ва ўсіх справах. Няхай маленькі Езус Вас блаславіць, а Маці Божая асвячае кожны дзень жыцця.

*Апостальства "Маргарытка" з в. Сураж*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары. Жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады жыцця, стойкасці і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Парафіяне з Суражы і Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя шчырыя пажаданні. Жадаем, каб шлях, абраны для Вас Богам, асвячала Найсвяцейшая Маці. Няхай добры Езус трымае Вас ля свайго сэрца, адорвае блаславеннем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодрым на свае дары. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, чалавечнасць, прыклад сапраўднай веры і адданую працу на карысць парафіі. Аддзяч Божа!

*Легіён Марыі, Касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Яну Этэлю, Эдуарду Сінкевічу і Аляксандру Фядотаву**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем букет сардэчных пажаданняў: здароўя на доўгія гады, Божай радасці, блаславлення Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрага плёну на ніве, на якую Вас паслаў Пан. Дзякуем за ахвярную працу ў нашай парафіі і за клопат пра кожнага з нас.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства гарачых пажаданняў: апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, даверу Богу, які ўказвае Вам дарогу Праўды і Жыцця, моцнай веры і непахіснай надзеі. Шчасці Божа!

*Касцёльны хор з парафіі Нача*

**Паважаным Айцам Вітольду Жыльветру, Андрэю Зую, Віктару Барысевічу, Сёстрам Люцыі і Анджэі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай нованароджаны Бог адорвае Вас сваёй любоўю і моцай, каб годна крочыць дарогай, якую Вам некалі ўказаў Святы Дух. Няхай Найсвяцейшая Маці падтрымлівае і дапамагае, а ў сэрцы ніколі не згасне запал служэння Богу і людзям.

*Францішканскі ордэн свецкіх і парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас моцным здароўем, радасцю, любоўю і надзеяй, Яго Маці ахінае сваім мацярынскім плачом і цеплынёй, а Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваша жыццё і прыносіць супакой у сэрца і душу. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт, Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Суботнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Раства Хрыстова і Новага года ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў. Няхай добры Бог дапамагае пераадольваць усе цяжкасці, а дарога, якой штодзённа крочыце, будзе шчаслівай і блаславёнай. Няхай Ваша сэрца будзе напоўнена супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, духоўную апеку, клопат аб святыні, увагу да кожнага верніка, навуку, шчырую малітву, цярплівасць, добрую ўсмешку і любячае сэрца.

*З удзячнасцю, парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Слонім*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя і людской добразычлівасці. Няхай Езус Хрыстус будзе крыніцай сілы і радасці ў выконваемай паслузе, Святы Дух апраменьвае святлом, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*Парафіяне з Новай Руды*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, поспехаў і шмат сіл у душпастырскай працы. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца, захоўвае ад злога і выпрошвае ў свайго нованароджанага Сына ўсіх ласкаў для Вас, а Святы Дух напаўняе сваімі дарамі. Шчасці Божа!

*Сем'і Заяц і Швед, Часнулявічус Наталля з Парэчча*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, задавальнення ад кожнай пражытай хвіліны жыцця, штодзённай радасці і натхнення Духа Святога. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Маці Божая дадасць сіл, цярплівасці і трываласці на выбраным шляху.

*Парафіяне з вёсак Еўлашы і Лядск*

**Паважаным Ксяндзам Раману Ялоўчыку і Алегу Дулю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем блаславлення ад Божага Дзіцяці, нястомнай апекі Божай Маці на святарскім шляху, шчодрых дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага Слова, моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена Божай ласкай і любоўю, а паслуга прыносіць толькі радасць і шчодры плён.

*Парафіяне з Гнезна*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу, Генрыху Яблоньскаму і Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця. Няхай на ніве Пана сустракаюцца толькі каласы людской павагі і дабрыні. Адрасуем Вам словы шчырай падзякі за прыгожыя раратнія св. Імшы, за тое, што дапамагаеце выхоўваць дзяцей і ўнукаў у веры і любові да Бога, вучыце быць адказнымі за свае ўчынкі. Дзякуем, што нястомна пераконваеце нас у вялікай Божай любові і ласцы. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе светлым, як само Свята Святла.

*Парафіяне з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважаным Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму, Клерыкам Эрнэсту Мікалайчыку і Андрэю Эйсманту**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем, каб нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адорваў Вас сваімі дарамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Няхай побач будуць добразычлівыя людзі. Радасных свят і шчаслівага Новага года!

*Вернікі з парафіі Вялікія Эйсманты*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму, Алегу Яновічу, Віталію Цыбульскаму, а таксама шаноўным Сёстрам**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, Святы Дух апраменьвае святлом і шчодра надзяляе сваімі дарамі. Няхай здароўе, радасць, супакой, любоў і людская зычлівасць заўсёды спадарожнічаюць Вам. Доўгіх гадоў жыцця ў службе Богу і людзям!

*Легіён Марыі з парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу і Юрыю Ясевічу**

з нагоды свят Божага нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчасця, здзяйснення мар. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас сваімі ласкамі, любоўю і радасцю. А супакой, як Бэтлеемская зорка, заззяе ў Вашых сэрцах ясным промнем. Шчыра дзякуем за ахвярную працу. Вясёлых і радасных свят!

*Удзячныя вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за добрае сэрца, любоў і цярплівасць. Дзякуем за адданую працу ў нашай парафіі, мудрыя парады, шчырую малітву і прыгожыя казанні.

*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне, малітоўная група, дзеці і моладзь з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважаны Ксёндз Павел Барысевіч!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Вам здароўя, поспехаў ва ўсіх пачынаннях, цеплыні, цярплівасці. Дзякуем за адданую працу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова, слушныя і добрыя парады. Мы ўдзячныя Богу за Вас, а Вам – за навуку і веды, якімі дзеліцеся з намі, клопаты аб нашым духоўным узрастанні і цудоўны прыклад веры і мудрасці. Няхай Усемагутны чувае над Вамі і мае ў сваёй апецы, а Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай дабрыні.

*З удзячнасцю, парафіяне Наваельні*

● працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух апраменьвае святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач. Дзякуем за адданую службу Богу і людзям.

*Удзячныя парафіяне з касцёла св. Андрэя Баболі ў Казловічах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Маці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны. Дзякуем за прыгожую і адданую службу Богу і людзям.

*Сем'і Цярэшчанка і Плюшэвіч*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення і няспыннай апекі Маці Божай Тракельскай. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях да Бога.

*Ружанцовае кола МБ Тракельскай, Юрацішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай народжаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас сваімі ласкамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана. Дзякуем за адданую службу Богу і людзям, добрае сэрца і цярплівасць да нас.

*Удзячныя парафіяне з Забалаці*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Валянціну Хведуку, Яну Рэйшалю і Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця і святарскай паслугі, шчырых і верных людзей побач, шчодрых ласкаў ад нованароджанага Езуса і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на шляху служэння Богу і людзям. Няхай Ваша сэрца і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць Евангелле. Дзякуем за адданую працу, шчырыя словы і клопат аб святыні і парафіянах.

*З малітвай, парафіяне з Моцевіч, Вангоў і Пескаўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Люцыяну Дамброўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя віншаванні. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці і назгаснага запалу ў сэрцы. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая Барунская ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць паслугу.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з Барунскай парафіі*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Чургану, Яну Гавецкаму і Мікалаю Ціхановічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы. Няхай маленькі Езус у кожную хвіліну жыцця шчыра Вас бласлаўляе, Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях, а Маці Божая атуляе і аберагае ад нягод.

*З павагай, сям'я Езерскіх з Юрацішкаў*

**Дарагому Сыну Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Дня нараджэння і свят Божага Нараджэння жадаем шмат здароўя, 100 гадоў жыцця, сіл, нязгаснага запалу да працы, аптымізму і надзеі. Няхай Найсвяцейшая Маці і Яе ўмілаваны Сын заўсёды Табой апекуюцца і вядуць па жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*Мама і родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, сіл, цярплівасці і людской добразычлівасці. Няхай нованароджаны Езус адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом мацярынскай любові. Дзякуем за духоўную апеку, малітву і цярплівасць да нас.

*Парафіяне з Навіянкі і Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай народжаны маленькі Пан Езус адорвае Вас сваімі дарамі, моцным здароўем, душэўным супакоем, людской зычлівасцю, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна апекуецца на святарскім шляху. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, за клопат аб парафіянах і святыні. Радасных свят і шчаслівага Новага года!

*Верныя парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважаны Ксёндз Артур Валчкевіч!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб маленькі Езус адорваў Вас здароўем, цярплівасцю і сілай, цешачыся разам з Вамі з плёну святарскай паслугі. Для нас Вы заўсёды будзеце яснай зоркай, якая кожнаму чалавеку ззяе дабрынёй, любоўю і цеплынёй.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Дзмітрыю Папенюку, Андрэю Радзевічу і Віктару Мыслюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Вас бласлаўляе і адорвае сваімі ласкамі, каб стойка ішлі па абранай жыццёвай дарозе, служачы Богу і людзям. Няхай умацоўвае Вас сваёй любоўю і моцай, каб у прастаце, пакорнасці і любові да бліжняга, нягледзячы на чалавечую недасканаласць Вы былі нязвыклымі святарамі.

*З хрысціянскім прывітаннем, парафіяне з Росі*

**Паважаным Ксяндзам Аляксандру Шэмету, Артуру Малафею, Алегу Кудэрку, Сёстрам Людміле і Ліліі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і аптымізму. У гэты святочны час просім Марыю, каб ахінула Вас сваёй пяшчотай, любоўю, а Божае Дзіцятка асвяціла Ваш жыццёвы шлях. Дзякуем за гады працы ў нашай парафіі, адкрытыя сэрцы і добрыя словы для кожнага з нас. Вясёлых і радасных свят!

*Малітоўная група МБ Каралевы Супакою з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Прэлату Юзафу Трубовічу, Андрэю Зайко і Антонію Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем бласлаўлення ад нованароджанага Дзіцятка Езус, апекі Найсвяцейшай Маці, душэўнага супакою, радасці ў здзяйсненні душпастырскай паслугі, а таксама здароўя, цярплівасці і моцы на кожны дзень.

*З малітвай, вернікі з парафіі Гродна-Паўднёвы*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму, Аляксандру Вараб'ёву, Дзмітрыю Леўчыку і Паўлу Эйсманту**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай нованароджаны Езус суправаджае Вас па жыцці, Святы Дух адорвае мудрасцю і разважлівасцю, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай апекі.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з парафіі св. Вацлава, Францішканскі ордэн свецкіх, Ваўкавыск*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя паданні. Няхай нованароджаны Езус напаўняе Вас сваёй ласкай, а на святарскім шляху заўсёды спадарожнічаюць добрыя людзі. Няхай Маці Божая Вастрабрамская адорвае бласлаўленнем і ўсімі патрэбнымі ласкамі.

*"Маргарытка" з парафіі св. Вацлава, Ваўкавыск*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Марціновічу, а таксама Сёстрам Гарэцці, Юліце, Леоніі і Эўхарыі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці на кожны дзень, Божага бласлаўлення, сіл і стойкасці, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і Дзіцятка Езус. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя казанні, прыклад набожнасці клопат пра нас і парафію.

*Сям'я Касцюшкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Грэмзу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года жадаем усіх Божых ласкаў, апекі Марыі Панны на святарскім шляху, людской зычлівасці. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі дарамі і бласлаўленнем, а ў Новым годзе рэалізуюцца ўсе добрыя справы і намеры.

*Сям'я Падулінскіх з Гродна*

**Паважанаму Айцу Андрэю Врублеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджанае Божае Дзіцятка адорвае вас усімі ласкамі і напаўняе сэрца супакоем, радасцю і любоўю. Жадаем добрага здароўя, моцы Святога Духа і штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Валерыю Мазюку, Андрэю Ядкоўскаму і Віктару Бохану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў і апекі Панны Марыі на святарскім шляху. Няхай разам з нованароджаным Езусам у радасці і любові праходзяць хвіліны жыцця, а супакой, як Бэтлеемская зорка, заззяе ў сэрцы.

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Айцу Раману Цесляку і Сястры Юліі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаю самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення мар, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць кожны дзень жыцця, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі заўсёды Вамі апекуецца. Няхай на твары яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б'ецца ад той любові, якая ў ім жыве. Дзякую Богу і Марыі Панне за той час, калі магла быць у Вашай парафіі, перажыць генеральную споведзь і рэкалекцыі, атрымаўшы Божае бласлаўленне. Няхай Бог Вам за ўсё аддзячыць.

*З павагай, Тэрэза з Гродна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Шчасці Божа!

*Яна, Вераніка і Валерый з парафіі Селіванаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шаньчуку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: бласлаўлення ад Дзіцятка Езус, моцнага здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Бог апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*Парафіяне з Гожы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды 91-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: апекі Маці Божай, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей навокал. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены радасцю і супакоем. Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі Гродна-Паўднёвы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Сарэлу, Леону Лішыку, Айцу Аляксандру Дрогасю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе, штодзённай радасці і нязгаснага запалу веры. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а ўсе планы і намеры здзяйсняюцца з Божай дапамогай. Шчыра дзякуем за адданую паслугу, адкрытыя сэрцы і абвяшчэнне Божага слова. Шчасці Божа!

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог блаславіць святарскі шлях, Дух Святы асвеціць яго, а Маці Божая апекуецца Вамі. Моцнага здароўя, сіл, стойкасці, дабрыні і чуласці ад людзей. Няхай Новы год будзе спрыяльным ва ўсіх задумах і справах. Шчасця і радасці ў святочныя дні!

*Касцёльны камітэт з парафіі Нараджэння НПМ, Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шмат здароўя, шчасця і шчодрых Божых ласкаў ад нованароджанага Дзіцятка Езус на кожны дзень. Дзякуем за шчырую дзейнасць, душпастырскую апеку, цудоўныя казанні і малітву. Няхай Пан дапамагае на жыццёвым шляху, а Маці Божая Міласэрная апекуецца Вамі. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх ласкаў ад Яго!

*Вернікі з капліцы Бортнікі*

**Каханаму брату Мар'яну Эйсманту**

з нагоды 70-годдзя складаем сардэчныя пажаданні здароўя, апекі Маці Божай, сіл і стойкасці на жыццёвым шляху, усмешак і пацехі ад дзяцей і ўнукаў. Дзякуем за ўвагу, чуласць і добрае сэрца. Шчасці Божа!

*Сям'я*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ігнатовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года жадаем моцнага здароўя, спакойных ясных дзён, шчодрага плёну на ніве Пана, апекі Маці Божай, натхнення ад Духа Святога. Няхай Езус блаславіць кожны дзень святарскай паслугі, адорыць непахіснай надзеяй, дапаможа ў рэалізацыі планаў і добрых спраў.

*Удзячныя парафіяне з касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Правых Мастах*

**Паважаным Сёстрам Дароце і Марыне, Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года перасылаем сардэчныя пажаданні шчасця, здароўя, шчодрых Божых ласкаў, святла Духа Святога і апекі Маці Божай. Няхай служба Богу і людзям прыносіць задавальненне і багаты плён.

*Сям'я Саўко з Вейшычаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: здароўя, радасці, усмешак, сардэчнасці, душэўнага супакою, аптымізму, непахіснай надзеі і сілы ў душпастырскай працы. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым святлом і дарамі ад Усемагутнага. Шчасці Божа!

*Былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук, Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці, душэўнага супакою, плёну ў штодзённай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай нованароджаны Збаўца штодзённа Вас бласлаўляе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух спасылае шчодрыя дары.

*Удзячныя парафіяне з Мастоў*

**Дарагому Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, здароўя, радасці і нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям. Няхай усмешка ніколі не знікае з Твайго твару, а побач будуць добразычлівыя людзі. Усяго найлепшага ў Новым 2017 годзе!

*Сем'і Кучынскіх, Эйсмантаў і Лазавіцкіх*

**Спадарству Крысціне і Станіславу Эйсмантам**

з нагоды 30-й гадавіны шлюбу складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай Фацімскай і святых Заступнікаў. Няхай сэрцы напоўняцца Божай любоўю, а душу ахіне супакой. 100 гадоў!

*Сын Андрэй і хроснікі, сем'і Кучынскіх, Эйсмантаў і Лазавіцкіх*

**Родным і блізкім кс. Тадэвуша Вышынскага**

выразы шчырага спачування і словы хрысціянскай падтрымкі, спалучаныя з малітвай за супакой душы, перасылаюць *працаўнікі курыі і рэдакцыі "Слова Жыцця"*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл./факс: **(80152) 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6580 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная